РУБАМ!

# Ці павінен пісьменнік служыць уладзе?

У Беларусі існуюць два саюзы пісьменнікаў. Абодва – афіцыйна зарэгістраваныя, у абодвух – прыкладна па паўтысячы сяброў. Ды і назвы іх амаль не адрозніваюцца – Саюз пісьменнікаў Беларусі і Саюз беларускіх пісьменнікаў. Але на гэтым раўнапраўе і заканчваецца: СПБ знаходзіцца на дзяржаўным утрыманні, мае сядзібу ў цэнтры Мінска (былы Дом літаратара), а СБП выжывае як можа, туляючыся па здымных памяшканнях.



Летась я трапіў на ўручэнне Літаратурнай прэміі імя Уладзіміра Калесніка (ад імя Брэсцкага аблвыканкама), якое праходзіла ў актавай зале Брэсцкага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А.С.Пушкіна. Мяне здзівіла, што ніводзін з вылучэнцаў ад Брэсцкага абласнога аддзялення незалежнага СБП на тое ўручэнне не быў запрошаны. Хоць вартыя ўвагі кнігі былі намі прапанаваны ва ўсіх трох намінацыях – паэзіі, прозе і дзіцячай літаратуры.

Так, **Лявон Валасюк** прадставіў кнігу эсэ пра вядомых творцаў Брэстчыны «Непрыдуманыя партрэты» – змястоўную, багата ілюстраваную. Была ў спісе і цікавая кніга для дзяцей аднаго са старэйшых пісьменнікаў вобласці **Івана Мельнічука**, чый першы зборнік яшчэ ў савецкую пару выйшаў накладам у 100.000 (!) асобнікаў. Прызнацца, і за ўласны нядаўна выдадзены паэтычны зборнік «Чуйнар» аўтару гэтых радкоў не сорамна.

У чарговы раз мясцовыя ўлады нас, брэсцкіх сяброў СБП, праігнаравалі. Не разгледзелі ў нашым шэрагу «лепшых прадстаўнікоў літаратурнага асяроддзя Брэстчыны». На думку ўлад, усе лепшыя сабраліся ў прыўладным саюзе, які з дня яго заснавання ўзначальвае былы міліцэйскі генерал **Мікалай Чаргінец**.

Той-сёй з чытачоў здзівіцца: «Мы нічога не чулі пра другі Саюз пісьменнікаў». Усё таму, паважаныя, што другога ўлады проста не хочуць бачыць. Для недасведчаных патлумачу: гадоў дзесяць таму Саюз пісьменнікаў захоўваў сваё адзінства, быў актыўны, але непаслухмяны. Гэта не спадабалася ўладам, яны на хуткую руку стварылі альтэрнатыўны саюз, прыкармілі яго і зрабілі выгляд, што альтэрнатыўнай пісьменніцкай арганізацыі проста не існуе. Стары лозунг «разделяй и властвуй» вельмі падабаецца нашым чыноўнікам. І, трэба прызнацца, у гэтым практыкаванні няма ім роўных ва ўсім свеце. Такая дзяльба на «сваіх» і «чужых» напамінае мне кадры з вядомага кінафільма «Вяселле ў Малінаўцы»: «Гэта мне, гэта ізноў мне, гэта тым больш мне…» А тым, хто не хоча прыслужваць уладзе, – кукіш!

«Стары» Саюз не захацеў памяняць праўду слова на добраўпарадкаваныя офісы, выпуск кніг за дзяржаўны кошт, медалі ды прэміі. Я ганаруся, што ні на кроплю ў той час не пакрывіў душой, не здрадзіў сумленню і застаўся ў незалежным Саюзе беларускіх пісьменнікаў, які сёння ўзначальвае **Барыс Пятровіч**.

Шчаслівы, што маю дачыненне да згуртавання, сябрамі якога былі сапраўды народныя паэты і пісьменнікі Васіль Быкаў, Ніл Гілевіч, Рыгор Барадулін… Лаўрэат Нобелеўскай прэміі Святлана Алексіевіч, хто не ведае, таксама ў «старым» саюзе.

Пакрыўлю душой, калі скажу, што абсалютна ўсе сябры Саюза беларускіх пісьменнікаў надзелены літаратурным талентам, а сябры Саюза пісьменнікаў Беларусі – не. На жаль, як у адным, так і ў другім грамадскім аб'яднанні на сённяшні дзень нямала людзей выпадковых. Па самых розных прычынах. Але сёння размова не пра тое.

На ўручэнні прэміі нехта на поўным сур'ёзе канстатаваў: «Писатель должен служить власти!» (Свядома не перакладаю, каб чаго не наблытаць). «Служить бы рад, прислуживаться тошно», – адкажу словамі грыбаедаўскага героя. Нават у савецкай школе, памятаецца, нас вучылі, што пісьменнік павінен служыць найперш свайму народу, «несці праўду ў масы», як справядліва адзначыў на ўручэнні прэміі намеснік старшыні аблвыканкама **Алег Вялічка**. Толькі дзе яна, праўда?

«А суддзі хто?» – запытаемся зноў словамі знакамітай камедыі. Пералічу, нікога не прапускаючы: Галоўнае ўпраўленне ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі аблвыканкама, Упраўленне адукацыі аблвыканкама, Брэсцкае абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі, рэдакцыя абласной газеты «Заря». І – ніводнага прадстаўніка ад Саюза беларускіх пісьменнікаў. Як на маю думку, намаганні журы ў першую чаргу былі накіраваны на тое, каб ніхто з «чужых» не быў уганараваны прэстыжнай прэміяй. А для гэтага ў іх кнігах трэба шукаць «ідэалагічную крамолу», памылкі, моўныя хібы.

Нас як быццам не бачаць, мы быццам не існуем. Але, панове чыноўнікі, насуперак усяму мы ёсць. І не проста існуем, а пішам вартыя творы. Пра гэта сведчаць публікацыі не толькі ў рэспубліканскім друку, але і за межамі: у Расіі, Украіне, Польшчы і другіх еўрапейскіх краінах. Чыноўнікі ад культуры, адукацыі, ідэалогіі стараюцца адмежавацца ад нас, да мінімуму звузіць выступленні ва ўстановах адукацыі, бібліятэках вобласці. Складваецца ўражанне: ці то нас баяцца, ці то асцерагаюцца атрымаць па шапцы за любыя, няхай самыя нязначныя, кантакты і паслабленні.

Аднак вернемся да Калеснікаўскай прэміі. Яна прысуджаецца «за высокі ўзровень надрукаваных літаратурных твораў». А ці так яно на самай справе? Тым разам прэмію за паэзію атрымала жыхарка вёскі Мачуль Столінскага раёна **Галіна Бабарыка**. Вершы гэтай аўтаркі я неаднаразова чытаў на старонках абласной газеты «Заря». Мне яны падаліся шэрымі і нецікавымі: вобразы збітыя, рыфма моцна кульгае, многа паўтораў і бяссэнсіцы. Прадмову да зборніка лаўрэаткі напісаў намеснік старшыні прыўладнага саюза **Анатоль Крэйдзіч**, даўшы кідкі загаловак «Як чысты гром свабоды».

«Чысты гром свабоды» – гучыць моцна, па-бунтарску. Крэйдзіч адзначае «высокі мастацкі ўзровень паэткі ва ўмовах сельскіх». Во закруціў дык закруціў! А што, у гарадскіх умовах павінен быць нейкі другі ўзровень? На маю думку, талент або ёсць, або яго няма.

У творчасці Галіны Бабарыка – кветачкі, зорачкі, хвалебныя песняспевы. А дзе абяцаны «бунтарскі дух», дзе «чысты гром свабоды», дзе, урэшце, мастацкая праўда жыцця? Не хачу пакрыўдзіць аўтарку, але, мякка кажучы, да высокай літаратуры яе творы адносін не маюць. Недакладныя, прыблізныя рыфмы на кожнай старонцы: *цень – людзей, дажджынкі – невідзімкай, дзіцяці – шчасце, дзятве – яе, святлом – туманоў, здалася – шчасце, ледзяшамі – вераб'ямі, прыгажун – дум*… Пералік можна працягваць бясконца.

Дык ці варта выдаваць такія нізкаякасныя кнігі, тым больш даваць за іх прэміі?

На маё пытанне «Дзе вы адшукалі высокую паэзію ў кнізе Галіны Бабарыка?» дырэктар Брэсцкай абласной бібліятэкі, сябра журы **Тамара Данілюк** адказала, што аўтар – харошы чалавек. Можа, і харошы, ды толькі абсурдна за адно гэта прысуджаць літаратурную прэмію, што носіць імя слыннага дзеяча беларускай культуры і літаратуры, які прапагандаваў адраджэнне беларускасці, патрабавальна ставіўся да кожнага слова, настойліва вучыў сваіх выхаванцаў (Ніну Мацяш, Алеся Каско, Міколу Пракаповіча, Алеся Разанава) не кляпаць, не крэмзаць вершы-аднадзёнкі ды хвалебныя оды ўладзе, а пісаць праўдзівыя, высокамастацкія творы.

Дзе сумленне, дзе грамадзянская пазіцыя аўтарытэтнага журы?! Чаму на працягу апошніх дзесяці гадоў ім ігнаруюцца вартыя ўвагі кнігі сяброў Саюза беларускіх пісьменнікаў? Адсутнасць сярод лаўрэатаў сяброў «старога» саюза Тамара Данілюк патлумачыла наступным чынам: Лявон Валасюк не атрымаў прэміі па той прычыне, што ў сваёй кнізе «Непрыдуманыя партрэты» напісаў, што Калеснікаўскую прэмію «прыватызавала» абласное аддзяленне новастворанага саюза, і яна з цягам часу губляе свой прэстыж. У дзіцячай кніжцы Івана Мельнічука журы адшукала шэраг «недзіцячых» твораў. Аўтар гэтых радкоў не заслужыў прэміі, бо «піша эратычныя вершы».

Заўважце, паважаныя: не парнаграфічныя, а эратычныя. Але што такое паэтычная эротыка ў параўнанні з пасцельнымі сцэнамі, якія штодзень можна назіраць на нашых тэлеэкранах?! Эратычнае – не значыць неэстэтычнае. Інакш што нам рабіць з творамі А.Пушкіна, С.Ясеніна, урэшце, М.Багдановіча ды іншых класікаў айчыннай ды сусветнай літаратуры?

Хочацца ўсё ж, каб Літаратурная прэмія імя светлай памяці Уладзіміра Калесніка ўручалася не за прыналежнасць пісьменнікаў да пэўнай арганізацыі, а за высокія мастацкія якасці іх твораў.

**Васіль ДЭБІШ, сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў.**
*Брэст.*

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ

## Хоць замуж не выходзь

Пра жаніха яна казала:
– Такіх хлапцоў на свеце мала.
Уважлівы, пяшчотны гэткі!
Ён кожны дзень прыносіць кветкі.
Ды што там нейкія букеты –
Пярсцёнкі дарыць, бранзалеты!
Такі харошы хлопец, хоць
Ніколі замуж не выходзь…

## Не толькі смерць

Пачулі ўсе ад маладых,
Што толькі смерць разлучыць іх.
Было кранальна і прыгожа!
…Ды толькі й цешча штосьці можа.

## Не наліваць

Аварыі і тут, і там.
Дык выхад просіцца адзін:
Не ліць гарэлку мужыкам,
Жанкам не наліваць бензін.

## Беззаконне

Усюды валяюцца цацкі,
І носяцца дзеці, як коні…
Папруга згубілася ў бацькі –
Два тыдні ў сям'і беззаконне.

## А час ляціць…

Нядаўна мы чулі:
– Паснедай хоць крышку:
З'еж лыжку за тату,
За мамачку лыжку…
І вось ужо заклік
Ляціць з гарлякоў:
– Дык вып'ем за нашых бацькоў!

## Не пашанцавала з дудкай

Калі жонка кожны дзень
Пад тваю не скача дудку,
Дык лічы, што справы дрэнь,
І для ўцехі прастытутку
Варта, мусібыць, знайсці.
Жонка слухаецца мала,
Бо, на жаль, табе ў жыцці
З дудкай не пашанцавала…

УРАЖАННІ

# Што мяне збянтэжыла ў Музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны

Прызнаюся: на свой сорам, да мінулага тыдня яшчэ не бываў у новым будынку гэтага музея на праспекце Пераможцаў. І вось вырашыў ліквідаваць гэты прабел.

Ранак буднага дня. За 9 рублёў купляю квіток з нумарам 2. Першымі па калектыўным квітку ўнутр увайшлі госці з Кітая, якія заказалі паўнавартасную экскурсію. Дарэчы, 9 рублёў за квіток – гэта «столь». Калі прыйсці сюды ў трэці аўторак месяца, агледзець музейныя залы можна за 2,5 рубля.

«Тут захоўваецца памяць аб тых, каму мы абавязаны сваім жыццём», – такі надпіс сустракае наведвальнікаў музея яшчэ да ўваходу ў залы, якіх больш за дзясятак. Тут жа на вялікім экране транслюецца апошні парад, які прайшоў у Мінску 3 ліпеня.

Абстаноўка ў музеі камерная, цішыня звініць… Так і павінна быць у месцы, якое заклікае задумацца аб тым, што галоўная каштоўнасць на ўсе часы – чалавечае жыццё.

Экспазіцыя ў першых залах Музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны прысвечана передваенным гадам, а дакладней – нямецка-фашысцкай агрэсіі ў Еўропе. Далей – зала, у якой распавядаецца пра абарону Брэсцкай крэпасці. Наведвальнікаў сустракае манекен савецкага памежніка – менавіта яны першымі прынялі ўдар нямецкіх войскаў. Амаль усе загінулі. «Прощай, Родина, мы умираем, но не сдаемся», – няроўнымі літарамі выдрапана на сцяне. Абарона Брэсцкай крэпасці сімвалічна ўвасоблена ў інтэрактыўнай інсталяцыі пры дапамозе камп'ютарнай графікі: на вялікім экране ўмоўны абаронца крэпасці бярэ трубку тэлефона і хрыпла гаворыць у яе: «Я – крэпасць, я – крэпасць! Вяду бой, дзяржу абарону, жду падкраплення». Гэты ролік паўтараецца кожныя паўтары хвіліны. Відаць, паводле задумкі аўтараў інсталяцыі, трасянка павінна падкрэсліваць тое, што першай пад удар гітлераўцаў трапіла Беларуская ССР.

Няма сэнсу апісваць усё ўбачанае ў музеі, адзначу толькі, што экспазіцыя сапраўды ўражвае. У самым добрым сэнсе.

Але аб некаторых экспанатах хочацца сказаць колькі слоў.

Уся экспазіцыя крычыць: вайна – гэта страшна, вайна – гэта кроў, пакуты і смерць!.. Вось салдацкая каска з дзіркай ад кулі, вось фляга з кавалкам чалавечай косткі ўнутры… Вялікая частка музейнай плошчы аддана пад ваенную тэхніку – муляжы танкаў, самалётаў, гармат…

Сярод лістоў, якія пісалі салдаты з фронту, можна знайсці ліст Васіля Быкава, але ён не пазначаны асобна, а знаходзіцца сярод іншых.

Здаецца, перадапошняя, адзінаццатая па ліку, тэматычная зала называецца «Нашчадкі перамогі». Хто ж яны? Першы, хто сустракае там наведвальнікаў, – гэта Аляксандр Лукашэнка. Зразумела, не асабіста, а яго вялікі фотаздымак, які ў адрозненне ад таго ж ліста Быкава не заўважыць немагчыма. Ёсць у гэтай зале і іншыя фотаздымкі Аляксандра Рыгоравіча – вось кіраўнік дзяржавы віншуе ветэранаў, вось бярэ ўдзел у вайсковых вучэннях…

Сярод іншых нашчадкаў перамогі – міністр МУС Ігар Шуневіч, старшыня КДБ Валерый Вакульчык, старшыня дзяржаўнага камітэта судовых экспертыз Андрэй Швед.

Гэта крыху збянтэжыла. Канечне, названыя чыноўнікі таксама, як і мільёны беларусаў, нашчадкі Перамогі, але ці варта аддаваць пад іх фота ледзь не палову залы? Асабіста я хацеў бы там бачыць фота і звесткі пра блізкіх і родных салдат той вайны, пра дактароў, якія ратавалі жыцці салдат пад кулямі і ратуюць нашы жыцці ў мірны час, пра настаўнікаў, якія нясуць нашым дзецям інфармацыю пра тую страшную вайну, пра будаўнікоў, якія аднаўлялі гарады і вёскі… (Дзеля справядлівасці адзначу: да нашчадкаў перамогі стваральнікі экспазіцыі аднеслі першага Героя незалежнай Беларусі Уладзіміра Карвата.)

Відаць, сёння мы жывём у такой Беларусі, у якой вайну, перамогу, як і многае іншае, «прыватызавалі» рознага кшталту «дзяржаўныя мужы». У пагонах і без. І экспазіцыя музея, падобна, заклікана спаяць у падсвядомасці наведвальнікаў іх асобы з подзвігам усяго беларускага народа. Але ці правільна гэта?

**Віталь ГАРБУЗАЎ, мінчанін.**

ХАЧУ СКАЗАЦЬ…

# Радзіма адна, адзіная

За дзевяць месяцаў сёлетняга года, названага афіцыйна Годам малой радзімы, я прытаміўся кожны дзень чуць па радыё, тэлебачанні і сустракаць на газетных старонках гэты легкадумны выраз – *малая радзіма*. Ужо не толькі многія журналісты, а і некаторыя пісьменнікі ўжываюць побач з цудоўным і святым словам выпадковае азначэнне. Цікава, хто ж першы дадумаўся да такога недарэчнага спалучэння. У нашых класікаў дакладна гэтага няма. «Мой родны кут» – у Якуба Коласа. «Бацькаўшчына светлая мая» – гэта ў Уладзіміра Караткевіча. Крылатыя словы з Коласавай паэмы «Новая зямля», а таксама праніклівы Караткевічаў верш даўно сталі задушэўнымі песнямі. Зрэшты, не так даўно пачуў і новаспечаную ўгодлівую песню пра малую радзіму. Што тут ужо здзіўляцца, што адзін з нашых кампазітараў у свой час апеў і аграгарадок!..

Між тым, працягваючы сваю тэму, успамінаю людзей, якія мысляць незалежна ад нейкіх акалічнасцяў, павеваў, ад нейкай палітыкі. Паважаючы ўзрост, спярша скажу пра 95-гадовую пісьменніцу, лаўрэата Дзяржпрэміі Беларусі Алену Сямёнаўну Васілевіч. Перад яе юбілеем, завітаўшы да яе, сябра СБП Леанід Галубовіч задаў адным з першых такое пытанне:

– Случчына, малая радзіма, калыска сноў і першых слоў… Як даўно там былі і ці захавалася там што з Вашага былога, апроч памяці?

І вось што прагучала ў адказ:

– Пачнём з таго, што я не люблю гэтых вызначэнняў – «малая радзіма» і «большая родина». Для мяне Радзіма – адна, як і Маці. Аднолькава – родная і вялікая. Дык вось такой для мяне засталася і родная Случчына, мой невялікі, усяго на 12 двароў, засценак Даманшчына, ці пазней – Ліпнікі. Адсюль і прарасло ўсё маё, што ідзе за мною, – і лепшае, і горшае… Як ні дзіўна, але і сёння ўспамінаецца, адкуль свяціла і смяялася ў вочы сонца з-за жытнёвых загонаў, усыпаных валошкамі…

(Дарэчы, гутарка, змешчаная ў апошнім нумары «Дзеяслова» за мінулы год, вельмі цікавая.)

Што да вызначэння «малая радзіма», то яго не прымаюць не толькі вядомыя літаратары. Мяне прыемна ўразіла, як аднойчы на тэлеэкране касманаўт А.Навіцкі, адказваючы на пытанне журналіста, таксама не падтрымаў распаўсюджаны ў нас надуманы выраз. А яшчэ ў 2015 годзе ў лісце ад 8 студзеня знакаміты шахматны кампазітар Мікола Бельчыкаў, які ў 2000 годзе стаў чэмпіёнам свету па складанні двухходовых задач, падтрымаў маю думку: «Радзіма не можа быць ні малой, ні вялікай, яна адна, адзіная». Такая пазіцыя мне прыйшлася мёдам па сэрцы, бо, вядома ж, мясціна, дзе нарадзіўся чалавек, – святыня, якую не выпадае аднесці да шэрагу памераў. Мяне здавён радуе, што доктар філалогіі, прафесар Аляксей Рагуля і прафесар Мазырскага дзяржпедуніверсітэта Тамара Нуждзіна цягам доўгіх гадоў унушаюць студэнтам, па сутнасці, тое, што і выказаў некалі я ў сваім творы:

*Радзіма… У ёй да*
*скончэння вякоў*
*Прастору душа набывае.*
*Магчыма, бывае малая*
*любоў,*
*Святыні малой не бывае.*

Калісьці ў Мінску выступаў знаны вучоны, выкладчык Варшаўскага ўніверсітэта і беларускі паэт Алесь Барскі, які нарадзіўся і вырас у вёсцы Бандары (Беласточчына). Ён казаў: «Радзіма, якую называюць малою, для мяне – самая вялікая». У такім задзірыстым выразе я адчуў пратэст супраць даволі ўкаранёнай у нашых краях бязглуздзіцы.

Чытаючы кнігі паэтаў, радуюся, калі заўважаю, хто са мною і з кім я салідарны. З прыемнасцю называю Міколу Гіля, роднага брата Ніла Гілевіча.

А завяршу гэтыя нататкі словамі Уладзіміра Рунцэвіча, хоць ён і не ў той творчай суполцы, дзе я, – не ў Саюзе беларускіх пісьменнікаў, а ў Саюзе пісьменнікаў Беларусі:

*Край белых буслоў і*
*бялюткіх бяроз,*
*Ці зоркі на небе, ці сонца*
*ў зеніце,*
*Ніколі ні жартам, ані*
*ўсур'ёз*
*Радзімай малой не завіце!*

**Васіль ЖУКОВІЧ.**

ИЗ КОНВЕРТА…

## В больнице

– Доктор, а какой идеальный рост при моем весе?

– Четыре метра…

***

Из больницы сбежали люди с расстройством кишечника. Врачи быстро нашли их по горячим следам.

***

Врач порекомендовал мне больше двигаться. Но забыл уточнить, в какую сторону, поэтому на всякий случай полежу.

***

– Доктор, каковы мои шансы?

– Знаете, я делаю эту операцию 24-й раз…

– Вы меня успокоили.

– Да, хоть один-то раз у меня должно получиться!

**Прислал Артем КАРПИКОВ.**

УСМЕШКА МАСТАКА

**27-гадовая мінчанка запрасіла ў госці свайго знаёмага для сумеснага распіцця спіртных напояў. Калі ён прыйшоў у абумоўлены час, гаспадыні дома не было (пайшла ў краму), а дзверы кватэры былі не зачынены. Скарыстаўшыся гэтым, мужчына закруціў у прасціну тэлевізар і вынес яго з кватэры. На вуліцы сустрэў знаёмага, разам з якім здаў тэлевізар у ламбард. Пасля гэтага мужчыны патрацілі атрыманыя 60 рублёў на алкагольныя напоі і аказаліся ў кампаніі, дзе іх і распілі. Туды ж прыйшла і гаспадыня тэлевізара. Пілі ўсе разам.**

"А дзе мой тэлевізар?!!"

"Я, як джэнтльмен, павінен зрабіць спрыяльнае ўражанне на даму; якая мне спадабалася?!"

**Малюнак Ірыны ПУСТАВАЛАВАЙ.**

Народная Воля
http://www.nv-online.info
30 КАСТРЫЧНІКА 2018 г.

ГРУЗИЯ

# На второй тур!




Ни один из кандидатов в президенты Грузии не набрал более 50 процентов голосов – необходимого числа для победы в первом туре выборов. В общей сложности за пост президента боролись 25 кандидатов.

Во второй тур прошли кандидат от правящей партии «Грузинская мечта – Демократическая Грузия» **Саломе Зурабишвили** и оппозиционный кандидат **Григол Вашадзе**.

Новый президент Грузии будет избран на шестилетний срок и сменит Георгия Маргвелашвили, который занимает этот пост с 2013 года.

Согласно новой Конституции, которая начнет действовать после инаугурации, полномочия новоизбранного президента будут ограничены.

УКРАИНА

# Надежда Савченко готовит иск к Украине в ЕСПЧ

Народный депутат Украины Надежда Савченко, которая в настоящее время находится под арестом, готовит в Европейский суд по правам человека (ЕСПЧ) иск к Украине. Консультировать ее по вопросам обращения в ЕСПЧ Савченко попросила бывшего первого заместителя генерального прокурора Украины Рената Кузьмина. Об этом говорится в открытом письме Кузьмину, выложенном на странице Надежды Савченко в соцсети Facebook в понедельник 29 октября. Жалоба касается «произвола и беззакония» в Украине.

Как известно, Надежда Савченко и ее адвокаты пока знакомятся с материалами так называемого «дела Савченко–Рубана», расследование которого завершилось 1 августа. Савченко находится под стражей с 23 марта 2018 года по подозрению в действиях, направленных на насильственное изменение или свержение конституционного строя или на захват государственной власти в Украине.

ТРАГЕДИЯ

# Затонувший Boeing оставят на дне моря

Спасатели решили не поднимать на поверхность лайнер авиакомпании Lion Air, который упал в море около острова Ява.

Напомнив о том, что самолет находится на глубине 30–35 метров, заместитель руководителя национального Агентства по поиску и спасению Сурио Аджи отметил, что водолазы могут на ней работать. «*Приоритетными действиями остается эвакуация тел жертв крушения, а также поиск бортовых самописцев*», – подчеркнул он.

Напомним, вчера, 29 октября, в Индонезии **потерпел крушение лайнер Boeing 737 MAX**, выполнявший рейс JT610 Джакарта–Панкалпинанг. Самолет упал примерно спустя 13 минут после взлета. Почти сразу после вылета командир самолета запросил экстренную посадку, после чего связь с ним прервалась, а лайнер исчез с экранов радаров.

На борту лайнера находились 178 взрослых пассажиров, трое детей, два пилота и пять членов экипажа.

НОВОСТИ ГЕРМАНИИ

## Два крупных поражения



Фолькер Буффье (в центре) останется премьер-министром Гессена.

Две партии правящей в Германии коалиции – Христианско-демократический союз (ХДС) канцлера Ангелы Меркель и Социал-демократическая партия Германии (СДПГ) – понесли крупные потери на парламентских выборах в федеральной земле Гессен, проходивших в воскресенье 28 октября.

Согласно официальным предварительным результатам, ХДС получает 27% голосов, а СДПГ – 19,8%. Для сравнения: результаты этих двух партий на выборах в Гессене пять лет назад были соответственно 38,3% и 30,7%. Социологи объясняют столь значительные потери недовольством избирателей в первую очередь работой берлинской правящей коалиции, сформированной всего-то в марте 2018 года.

Похожими были и мотивы избирателей в Баварии, где две недели назад абсолютного большинства, что здесь бывало крайне редко, лишился партнер ХДС по консервативному блоку – Христианско-социальный союз, а социал-демократы не набрали и 10%.

## Меркель уйдет с поста председателя ХДС?



В начале декабря нелегкое испытание предстоит и самой Ангеле Меркель. В Гамбурге состоится партийный съезд ХДС, на котором пройдут выборы на пост председателя партии. Потери христианских демократов на земельных выборах и общее снижение рейтинга многие в партии считают следствием политики канцлера.

На декабрьских выборах председателя у Меркель впервые будут соперники. О намерении баллотироваться в председатели ХДС уже объявил бывший глава фракции ХДС в бундестаге ФРГ Фридрих Мерц. Более того, по сообщению источников в ХДС, Ангела Меркель якобы намерена отказаться от поста председателя Христианско-демократического союза (ХДС), но при этом остаться федеральным канцлером. В то же время Меркель заявила, что не станет баллотироваться на новый срок в 2021 году, когда истечет четвертый срок ее полномочий во главе правительства.

Ангела Меркель занимает пост председателя Христианско-демократического союза уже 18 лет.

## Немцы довольны своим финансовым положением

Согласно результатам нового исследования, немцы никогда еще не были так довольны своим финансовым положением, как сейчас. Согласно результатам актуального опроса «Барометр личных состояний», две трети респондентов называют свое нынешнее финансовое положение «хорошим» и «очень хорошим». Это самый высокий показатель с 2001 года. И только восемь процентов опрошенных считают свои текущие денежные дела «плохими» или «скорее плохими». А наибольшее количество тех, кто доволен своим финансовым положением, приходится на федеральную землю Гессен, где находится финансовая столица Франкфурт-на-Майне.

## Что посмотреть в Германии в 2019 году?



Старый город в Бамберге (Бавария). На фото – Бамбергская ратуша.

Туристическое издательство Lonely Planet опубликовало свой новый путеводитель по самым интересным странам следующего года. Германия оказалась на втором месте.

Как сообщает агентство dpa, среди основных поводов посетить Германию в следующем году авторы путеводителя называют два предстоящих юбилея – 30-летие падения Берлинской стены и 100-летие основания Высшей школы строительства и художественного конструирования Баухаус, которая была основана Вальтером Гропиусом в Веймаре в 1919 году.

Особого упоминания также заслужили Кёльн и Франкфурт-на-Майне, Национальный парк Саксонская Швейцария под Дрезденом – взобравшись на здешние скалы, можно насладиться потрясающими ландшафтами. В свою очередь, в Баварии все пути ведут в бывшие резиденции короля Людвига II – замки Нойшванштайн и Линдерхоф.

Говоря о Германии в целом, авторы «Лоунли Планет» отмечают особое сочетание традиций и устремления в будущее. Здесь можно подняться на горы в Баварских Альпах, посетить многочисленные замки, покататься на велосипеде по виноградникам, выпить пива в уютных кабачках, искупаться на курортах Балтики и Северного моря, а также посетить места, связанные с именами великих композиторов, ученых, писателей, философов – таких как Бетховен, Эйнштейн, Гёте или Маркс.

ИЗ БЛОКНОТА РЕЦЕНЗЕНТА

Семен БУКЧИН

# Тяжкий путь к правде




Весной прошлого года в литовском посольстве в Минске в «Интеллектуальном клубе» Светланы Алексиевич выступала Рута Ванагайте. Худенькая женщина очень волновалась. Еще бы! Далеко не молодая литовская писательница и журналистка приехала по приглашению нашего нобелевского лауреата в самый разгар нападок на нее на родине. Нападок за книгу «Наши» («Свои»), в которой она на основе документов и свидетельских показаний рассказала об участии некоторых литовцев в Холокосте, в убийствах своих сограждан, литовских евреев, в 1941–1944 годах. Всего в этот период в Литве погибло около 200 тысяч евреев, почти 97 процентов еврейского населения маленькой страны. В литовских городах, деревнях и лесах насчитывается 227 мест массовых убийств мужчин и женщин, стариков и детей еврейской национальности.

В Литве поднялась буря. Книга стала бестселлером. Она вызвала шок в обществе. Немало людей зачислило Ванагайте во враги страны. От нее отказались некоторые родственники и друзья. Официальные власти дали резко отрицательную оценку книге как порочащей Литву и литовцев. Не кто-нибудь, а сам Витаутас Ландсбергис посоветовал писательнице «пойти в лес, где растут осины, помолиться и осудить себя», то есть повеситься. Выпустившее книгу вильнюсское издательство разорвало с Ванагайте контракт. Тем более стоит оценить поступок литовского посольства в Минске (а точнее Министерства иностранных дел Литвы), предоставившего Руте Ванагайте площадку для выступления. Значит, есть в Литве люди, для которых общечеловеческие категории, совесть и свобода слова не последние ценности. Кстати, среди них есть и литовские историки, священники, писатели, и, конечно, самые обычные люди, своими глазами видевшие убийства или узнавшие о них от близких. Есть молодые, жаждущие правды, есть женщины, рыдающие и шепчущие молитвы над страницами ее книги, вышедшей невиданным для Литвы девятнадцатитысячным тиражом. «По всей Литве в библиотеках за книгой выстраиваются очереди, – пишут в эпилоге авторы «Своих». – Люди ждут книгу по несколько месяцев. Ничего страшного: ведь правды о Холокосте Литва ждала 75 лет. Наконец дождалась. Наконец Литва заплакала».

«Эта книга поможет нам более объективно и зрело взглянуть на свою историю, обрести истинное национальное самосознание и самоуважение», – говорит знаменитый литовский поэт и интеллектуал Томас Венцлова.

***

Книга, о которой здесь идет речь, имеет подзаголовок – «Путешествие с врагом». Враг – это соавтор Руты Ванагайте Эфраим Зурофф, израильский историк, охотник за нацистами, продолжатель дела Симона Визенталя. Зурофф далеко не самая приветствуемая личность в Литве. Там немало людей, считающих его очернителем их родины. И даже израильский посол в Литве, пишет Рута, «можно сказать, «послал» его, потому что он только разъезжает повсюду и портит людям настроение». И вот с таким человеком она решилась предпринять автомобильное путешествие по некоторым из мест в Литве, где совершались убийства евреев. Рута за рулем, Эфраим рядом, они едут и говорят, спорят и серьезно ссорятся. Они сходятся в том, что нужна полная правда о еврейской трагедии в Литве, что немало людей и во власти, и среди обычного населения упрямо отворачиваются от этой правды, что неправедно увековечиваются в стране имена неоднозначных личностей, боровшихся за независимую Литву и одновременно запятнавших себя в убийствах своих сограждан еврейской национальности. Расхождения начинаются тогда, когда Зурофф требует безусловного осуждения палачей, а Ванагайте настаивает и на их жертвенности. Она патриотка своей страны. Рута жаждет правды, но не может отдать на поругание *свою Литву*. «Дайте нам время, чтобы всё осознать», – примерно так говорит Рута собеседнику. «Сколько? – спрашивает Эфраим. – Франции понадобилось 50 лет, хотя там в основном арестовывали и депортировали евреев в нацистские лагеря, где их уничтожали».

У Руты, понятное дело, не может быть ответа на этот вопрос. В Литве в годы войны советское рабство сменилось немецким. А в ситуации рабства – все палачи и все жертвы. «Один еврей, другой убийца, а правда в том, что оба наши», – эти слова вынесены на обложку книги как камертон. Рута говорит Эфраиму, что эти неграмотные деревенские парни, убивавшие своих сограждан, не ведали, что творили. «А вы расскажите родственникам убитых, что их отцов и дедов убивали отсталые люди, может, они вас поймут?» – парирует Эфраим. И Рута горестно замолкает. Но стоящий перед ней тяжелейший вопрос не уходит. «Кто я такая? – спрашивает она, у которой была родня, боровшаяся с Советами и репрессированная ими и одновременно участвовавшая в Холокосте. – Славный потомок славных литовских героев или представитель народа презренных убийц, истреблявших евреев, и моя родня запятнала себя преступлением перед человечеством?»

И шире: кто действительно виновен? Подонки, как утверждают литовские школьные учебники и другие официальные источники? Или тысячи литовцев, состоявших в батальонах вспомогательной полиции? Все-таки погибло 200 тысяч евреев, граждан Литвы. Цифра, не укладывающаяся в сознании. Сколько нужно было человек, чтобы осуществить такую массовую бойню? Ванагайте считает, что, возможно, до 20 тысяч. Зурофф называет цифру до 50 тысяч. Что ими руководило? Присущий литовцам до войны бытовой антисемитизм? Церковь, возбуждавшая ненависть к «предавшим смерти Христа»? (Хотя были священники, призывавшие не участвовать в убийствах.) Отчужденность еврейской общины и зависть к относительному еврейскому экономическому успеху? Встреча частью евреев Красной Армии цветами в 1940 году? Участие евреев в репрессиях, которые тогда развернула советская власть? Но ведь и те евреи, которые наивно верили, что с востока в Литву придут равенство и социалистическое братство, стали такими же жертвами репрессий. Их также арестовывали и ссылали органы НКВД.

Ванагайте в своих поисках ответов на мучительные вопросы вдохновлялась статьей историка Нериюса Шепетиса, писавшего: «Те, кто участвовал в Литве в истреблении евреев, – большей часть литовцы. И что? Давайте составим их списки, еще лучше – напишем их биографии, понемногу выявляя (если получится) типичные черты, но так просто не отдадим наших евреев тем, кто уподобился охотникам на нацистов (таким, как Зурофф) или защитникам истории (таким, как Кац). Потому что для них жившие среди нас и убитые евреи – только орудие». Инициатива насчет списка была поддержана. Было установлено с абсолютной точностью 2055 имен. Все-таки столько времени прошло, да и не все документы сохранились, и свидетели поумирали. Но публиковать и этот «короткий» список власть не желает. «Не будем разжигать, не будем бросать тень на потомков этих людей». Позиция понятная. Думается, Руте Ванагайте ближе позиция Юрия Карякина, высказавшегося насчет сталинских палачей: «Всех мерзавцев назвать и всех помиловать».

Я не считаю для себя возможным вмешиваться в этот спор. Тем более что сама Рута Ванагайте дорого платит и за свою книгу, и за свою ошибку в связи с командиром партизанского отряда («лесных братьев») Адольфасом Раманаускасом-Ванагасом, казненным по приговору советского суда в 1957 году. Впрочем, она нашла в себе мужество признать ее. Но мне понятна высказанная в книге «Свои» надежда, что, «быть может, совместный труд еврейского «охотника за нацистами», названного в память о жертвах Холокоста в Литве, и популярного публициста, близкие родственники которого преследовали евреев, поможет найти путь к общему будущему». При всех драматических сложностях проблемы нельзя не признать, что в Литве немало делается для воскрешения памяти о литовских евреях, их роли в истории и культуре страны. Что до военной трагедии, то, конечно, далеко не вся Литва потонула в еврейской крови. По данным института Яд Вашем, насчитывается около девятисот литовцев, заслуживших звание праведников мира, которое дается людям, спасавшим евреев в годы войны. Не так мало для маленькой страны с населением, зараженным бациллами антисемитизма. К слову, в Беларуси по последним данным таких праведников более восьмисот.

***

Кстати, в книге, посвященной еврейской трагедии в Литве, идет речь и о Беларуси (целый раздел «Белоруссия/Райсн», последнее слово – это идишское название Беларуси). В своей поездке 2015 года Рута Ванагайте и Эфраим Зурофф побывали и у нас. Они приехали искать следы «работы» литовского батальона Антанаса Импулявичюса, откомандированного из Каунаса провести «еврейскую акцию», попросту – убивать. Зачем понадобилась такая командировка? А потому, что местных жителей, белорусов, при всем старании немцев не удалось поднять, спровоцировать на массовые погромы. И вот Рута и Эфраим идут улицами Дукоры, Руденска, Смиловичей, Слуцка, Клецка, мест, где совершались убийства евреев. Никаких памятных знаков. Сотрудница краеведческого музея в Клецке говорит, что у них «нет ничего ни о евреях Клецка, ни об их гибели», хотя «клецкая могила – посреди городка». Кто убивал? Скорее всего, фашисты, говорит сотрудница. В Руденске на месте расстрельной ямы они нашли памятник, а рядом венок с надписью «Героям Великой Отечественной войны – от коллектива Руденского совхоза». Кто убил руденских евреев – неизвестно. Да и кого убили – непонятно. Согласно давно принятой советской традиции, надписи говорят либо о «мирных жителях», либо о «героях войны» и даже «освободителях».

В лагере смерти в Тростенце под Минском, где убито, как указано в «Энциклопедии истории Беларуси», 206.500 человек (преимущественно евреев), Рута и Эфраим не нашли никаких надписей с указанием, кто погиб. Спрашивают участников школьной экскурсии, что здесь было, и получают ответ: «Здесь фашисты убивали партизан и подпольщиков». Евреев? Нет, наших, белорусов. А почему убивали? Были сражения, потом взяли в плен и здесь держали.

Так преподносится молодому поколению история. Впрочем, нужно оговориться, что вторая очередь тростенецкого мемориала (в Благовщине) была открыта летом 2018 г., через три года после поездки Ванагайте и Зуроффа. И надпись там появилась. Но какая? На первом месте указаны как подвергшиеся массовому уничтожению участники антифашистского подполья и партизанского движения, затем советские военнопленные и только в самом конце упомянуты узники Минского гетто и еврейское население. И это о Тростенце, который прежде всего является гигантской еврейской могилой! Ничего не сказано об этом и при самом входе на территорию мемориала. И это, по словам историка Игоря Кузнецова, не что иное, как продолжение советской идеологической традиции – еврейские жертвы не выделять (так было и долгие годы с Бабьим яром в Киеве). Хотя общеизвестно, что евреев во Вторую мировую войну было убито шесть миллионов и убивали только за то, что они были евреи. Белорусским властям удалось настоять на своем «иерархическом» варианте указания жертв в Тростенце перед представителями западноевропейских городов, откуда сюда были привезены для уничтожения евреи и которые дали деньги на сооружение мемориала. Но Израиль проявил принципиальность: на открытие второй очереди мемориала в Беларусь не приехала израильская делегация, о чем умолчала наша пресса. Сравнивая ситуацию в Литве и Беларуси, Зурофф говорит, что «в Литве признают, что убитые были евреями, но скрывают, кто были убийцы, а в Белоруссии скрывают и кто были убийцы, и кто – жертвы. Есть только жертвы и фашисты». Хотя в эпилоге книги он признает: «Я был удивлен, как много сделали литовские историки, исследуя Холокост… Я не знал, как много в Литве было сделано, чтобы открыть правду». Делается, кстати, отчасти такая работа и в Беларуси. Зурофф мог бы узнать о ней, если бы побывал в Исторической мастерской на улице Сухой в Минске. Но его главная забота – это Литва.

С нелегким чувством я закрыл книгу «Свои». И вернулся к предисловию Светланы Алексиевич, в названии которого стоят слова: «Все хотят быть жертвами, никто не хочет быть палачом». Она пишет: «Вы будете плакать над этой книгой – плачьте, но плакать мало, надо думать. Думать о том, как быстро расчеловечивается человек, человека в человеке немного, тонкий слой культуры легко смахнуть. Никто из нас, кто двадцать лет назад радостно кричал на площадях «Свобода! Свобода!», не мог представить себе, что на месте коммунистической тирании вырастет много разных тираний. Оглянитесь вокруг – отбоя нет от тех, кто готов делать эту работу. И уже делает».

Такой вот мост из военных лет в наши дни. Нет другого выхода, как внять призыву писательницы – думать. И учиться вместе с Рутой Ванагайте, как пишет немецкий исследователь Кристоф Дикман, «не воспринимать историю с ограниченно-этнических позиций, а переживать ее как гражданин, который верен своей стране, хочет, чтобы ее любили и понимали, насколько полезно для общества непредвзятое отношение к собственной истории».

• • •

**Рута Ванагайте, Эфраим Зурофф. Свои. Путешествие с врагом. Москва, издательство АСТ, 2018.**

АСОБА

# Іосіф НАВУМЧЫК:
# «Я настаяў, каб у даведку быў уключаны гістарычны факт: 26 чэрвеня 1944 года сустракаць вызваліцеляў выйшлі ўсяго 118 віцябчан»

***(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)***

*Іосіф Адамавіч ахвотна пачынае гаворку:*

– Радзіма мая – Пастаўшчына. Цяпер гэта самы заходні раён Віцебскай вобласці. А да верасня 1939 года існаваў Пастаўскі павет Віленскага ваяводства Рэспублікі Польшча. Мне пашчасціла пабываць у многіх краінах, у тым ліку экзатычных, але бацькоўскі куток самы прыгожы ў свеце і дарагі сэрцу. Вёска Яцавічы невялічкая, але для мяне яна цэлы сусвет.

**– Вы сялянскага роду?**

– Самага што ні на ёсць. І з боку бацькі, і з боку маці. Бацька мой, Адам Іванавіч, пражыў нялёгкае жыццё. Рана стаў сіратой. Але гэта толькі загартавала яго характар. У ліпені 1944 года тату мабілізавалі ў Чырвоную Армію. Ваяваў мінамётчыкам. Дзякуй Богу, вярнуўся дамоў жывы. Калі ў вёсцы стварылі калгас, ён узначаліў яго. А быў жа не вельмі пісьменны. Браў сялянскай кемлівасцю, прыродным розумам, сумленнасцю і нястомнай рупнасцю. Мне вельмі спатрэбілася строгая, але мудрая бацькава навука. Нездарма восем гадоў пасля калгаса працаваў ён старшынёй Загачыцкага сельсавета.

– Пасляваеннае дзяцінства, – *працягвае Іосіф Адамавіч,* – запомнілася асаблівай згуртаванасцю і супольнасцю вяскоўцаў. Людзі падстаўлялі адзін аднаму плячо, каб разам перажыць даволі суровы час. У 1945 годзе я пайшоў у пачатковую школу. Настаўніцай, на карысць дзецям, была Францішка Адамаўна Скурко – сваячка нашага класіка Максіма Танка. Сын яе, Іосіф, потым стаў паэтам, напісаў у суаўтарстве з Ігарам Лучанком вельмі папулярную лірычную песню «Верасы». Усе прадметы ў школе выкладаліся на беларускай мове. Ды і вёска гаварыла па-беларуску.

**– Таму і ўзнікла ў вас жаданне выбраць прафесію педагога?**

– У 1952 годзе паступіў я ў Пастаўскае педвучылішча, а скончыў, як ні дзіўна, Лепельскае. Як сказалі б цяпер, адбылася аптымізацыя сістэмы. Спачатку нас, навучэнцаў, перавялі ў Глыбокае, а потым і ў Лепель.

Атрымаўшы сярэднюю адукацыю, папрасіў накіраваць мяне на радзіму. Бо маці перанесла цяжкую аперацыю, моцна хварэў бацька. Маю просьбу задаволілі, і пачаў я настаўнічаць у Вялікаспорскай школе. Цудоўная была пара – маладосці, вялікіх спадзяванняў, творчага натхнення. Стварыў вячэрнюю школу, стаў яе дырэктарам. І вось аднойчы завітала да нас Елізавета Пятроўна Чагіна, тады другі сакратар Маладзечанскага абкама камсамола. І прапанавала мне ўзначаліць мясцовую пярвічную камсамольскую арганізацыю. Пэўны досвед я ўжо меў – з'яўляўся сакратаром камітэта камсамола Глыбоцкага педвучылішча. Ды і падабалася мне працаваць з людзьмі. Яшчэ вучнем ахвотна чытаў вясковым мужчынам газеты, тлумачыў, што да чаго.

**– І вы прынялі прапанову?**

– Без ваганняў. Як потым высветлілася, гэта быў старт у новае жыццё. За справу ўзяўся з усім юначым энтузіязмам. І вельмі хутка зразумеў: гэта маё! У калгасе дасюль не было клуба, моладзь сумавала. Сабраў я юнакоў і дзяўчат, і вельмі хутка сваімі сіламі адрамантавалі мы памяшканне, якое пуставала. Пабудавалі танцпляцоўку. І жыццё завіравала. З'явілася мастацкая самадзейнасць, моладзь выяўляла свае таленты. З вялікай асалодай успамінаю тыя гады, лічу іх шчаслівымі.

Цяпер камсамол ацэньваецца па-рознаму. Скажу пра сябе: мне ён даў каштоўны досвед. І, канешне, знаёмствы з цікавымі, нават выбітнымі людзьмі.

Назаву толькі адно імя – Юрый Гагарын. Я пазнаёміўся з ім яшчэ ў 1962 годзе, потым, у бытнасць першым сакратаром Віцебскага абкама камсамола, быў разам з ім абраны ў склад ЦК саюзнага камсамола. Сустракаліся на розных форумах, а аднойчы цэлую гадзіну, спазніўшыся на пленум, прагутарылі сам-насам. І магу сведчыць, што Гагарын цёпла ставіўся да Беларусі і да беларусаў.

Гагарын шкадаваў, што пакуль так і не выбраўся да нас, хаця ад яго роднага Гжацка да Віцебшчыны – паўтары гадзіны язды. Цяпер я разумею, што мог бы паставіць сабе мэту і «зацягнуць» Юрыя ў госці – але ж тады думалася, што наперадзе яшчэ шмат часу... А праз некалькі месяцаў ён, на жаль, загінуў.

**– Іосіф Адамавіч, у Віцебску і цяпер прыгадваюць святкаванне 1000-годдзя горада ў 1974 годзе. Як узнікла сама ідэя і як яна рэалізавалася?**

– Калі мы кажам пра патрыятызм, дык ён, пэўна, пачынаецца з любові да роднага краю, да роднай вёскі, да роднага горада. Святкаванне 1000-годдзя Віцебска абудзіла ў нашых людзях жывую цікавасць да багатай і драматычнай гісторыі роднага краю.

Ідэю вылучыў гісторык і краязнавец Міхаіл Рыўкін. Ён звярнуўся да мяне – у той час я ўжо быў другім сакратаром Віцебскага гаркама партыі. Ідэю падтрымалі. Вядома ж, спрацаваў і прагматычны разлік: на святкаванне можна было атрымаць грошы з саюзнага і рэспубліканскага бюджэтаў, каб пабудаваць важныя для горада аб'екты. Але напачатку трэба было падрыхтаваць грамадскую думку. У рэспубліканскім і абласным друку з'явіўся шэраг публікацый аб шматвяковай гісторыі горада над Дзвіной. Заручыліся падтрымкай Інстытута АН СССР і яго дырэктара – славутага акадэміка Барыса Рыбакова. Накіравалі запіску ў ЦК КПБ, і па атрыманні станоўчага адказу бюро гаркама КПБ і выканкама гарсавета прынялі спецыяльную пастанову. Словам, разгарнулася маштабная кампанія.

Але раптам узнікла перашкода. У ліпені 1974 года сакратар ЦК КПСС Андрэй Кірыленка (ён змагаўся з Суславым за статус другой асобы ў партыі пасля Брэжнева) выступіў супраць прыняцця пастановы аб святкаванні 1000-годдзя Віцебска. Тады першы сакратар Віцебскага абкама партыі Сяргей Шабашоў камандзіраваў мяне ў Маскву, да нашага земляка Уладзіміра Бровікава (будучага старшыні Саўміна БССР), які тады працаваў у апараце ЦК КПСС. Разам з Бровікавым напісалі кароткую – на дзве старонкі – даведку, дзе сцісла выклалі гісторыю горада, а таксама прапанавалі праекты нарматыўных актаў аб святкаванні юбілею.

Запомніўся такі кранальны момант. Я настаяў, каб у даведку быў уключаны гістарычны факт: 26 чэрвеня 1944 года сустракаць вызваліцеляў выйшлі ўсяго 118 віцябчан – пры даваенным насельніцтве ў 180 тысяч. Аддалі даведку друкаваць машыністцы, і вось яна праз колькі хвілін вярнулася ў кабінет і, выбачаючыся, ціха спыталася, ці не наблыталі мы з лічбамі: «118 выжыўшых жыхароў горада? Можа, 118 тысяч?» Я адказаў: «Не, 118 чалавек». На вачах у жанчыны выступілі слёзы... Відавочна, факт гэты зрабіў уражанне і на сакратароў ЦК КПСС, бо на другім слуханні яны прынялі пастанову.

Яшчэ задоўга да юбілею ў размове з Генадзем Бураўкіным, які працаваў уласным карэспандэнтам газеты «Правда» па Беларусі, выспела думка запрасіць у Віцебск вядомых творцаў – нашых землякоў, каб параіцца з нагоды святкавання. Адразу адгукнуліся Пятрусь Броўка, Уладзімір Караткевіч, Генадзь Бураўкін, Еўдакія Лось, Аркадзь Маўзон, Заір Азгур, Андрэй Бембель, Іван Дзяржынскі, Уладзімір Сарокін, Марк Фрадкін... Вось такое сузор'е таленавітых дзеячаў айчыннай літаратуры і мастацтва.

Сустрэчы з землякамі сталі для іх выдатным творчым імпульсам. Анатоль Багатыроў прысвяціў Віцебску «Урачыстую ўверцюру», а Марк Фрадкін – песню «Сталіца абласная». Лідзія Обухава, дзяцінства якой прайшло ў горадзе над Дзвіной, напісала кнігу «Віцьбічы» – напэўна, гэта быў першы такі маштабны твор, прысвечаны Віцебску.

Падрыхтоўка да юбілею зблізіла мяне – і я вельмі ўдзячны за гэта лёсу – з Уладзімірам Караткевічам. На той момант ён быў ужо вядомы празаік, а мы прапанавалі яму выступіць у нязвыклай ролі драматурга. У п'есе «Званы Віцебска» класік яскрава адлюстраваў драматычныя падзеі, што адбыліся ў горадзе над Дзвіной у 1623 годзе. Прэм'ера спектакля ў Віцебскім дзяржаўным драматычным тэатры імя Якуба Коласа з вялікім поспехам прайшла 29 жніўня 1974 года.

Як рэліквію захоўваю аўтограф Уладзіміра Караткевіча на кнізе «Каласы пад сярпом тваім»: «Дарагому Іосіфу Адамавічу з пачуццём шчырай прыязні, якая, спадзяюся, ператворыцца з часам у сапраўднае сяброўства». Каб было ў нас такое сяброўства, як з тым жа Генадзем Бураўкіным, – я не сказаў бы, Караткевіч быў чалавекам няпростым у стасунках. Але ўжо напрыканцы 1970-х, калі я працаваў сакратаром абкама, спрыяў, каб на коласаўскай сцэне рэжысёр Валерый Мазынскі меў магчымасць паставіць яшчэ адну п'есу Караткевіча – «Кастусь Каліноўскі».

**– У красавіку 1985 года ў вас пачалася, напэўна ж, нечаканая рызыкоўная службовая камандзіроўка, якая стала даволі працяглай.**

– Так, я быў накіраваны ў Афганістан у статусе дарадцы ЦК КПСС, прабыў там паўтара года. Праца была зусім не кабінетнай, наведваў розныя ўстановы і прадпрыемствы ў Кабуле, часта выязджаў у правінцыі.

Давялося бываць і на ваенных аперацыях – разам з афганскім і нашым камандаваннем. У такіх выпадках, канешне, была ахова і нават верталёт суправаджэння, але пастаяннай аховы ў мяне не было – затое меў пісталет, аўтамат і дзве гранаты (наконт гранат некаторыя аматары чорнага гумару жартавалі: «Каб не здацца ворагу жывым»).

Я даволі хутка ўбачыў, што народ у масе сваёй не прыняў экспартаваныя Савецкім Саюзам ідэі сацыялізму, бо яны ўспрымаліся як супярэчлівыя Алаху (у нас бы сказалі – бязбожныя). А рэлігія, вера ў Афганістане вызначае ўсё. Але пастаўленыя Крамлём афганскія кіраўнікі зусім не імкнуліся наладзіць хоць нейкі кантакт з мусульманскімі святарамі. І гэта пры тым, што мула ў кішлаку карыстаўся аўтарытэтам самага высокага кшталту – як старэйшына, настаўнік і суддзя.

Пераканаўся: нельга лезці ў чужую краіну са сваім статутам і прымусова навязваць непрымальны лад жыцця. Вольналюбівы народ гэтага ніколі трываць не будзе. А афганскі народ такі. У гэтым у розныя часы пераканаліся да нас брытанцы, пасля нас – амерыканцы.

Ёсць сфарміраваныя стагоддзямі нацыянальныя асаблівасці, якія нельга перамагчы ні зброяй, ні ідэалогіяй, якой бы яна ні была – камуністычнай ці дэмакратычнай.

**– Іосіф Адамавіч, а ці заўсёды кіраўніцтва БССР ўлічвала «нацыянальны фактар»?**

– Думаю, галоўнай памылкай камуністычнага кіраўніцтва БССР было ігнараванне нацыянальных адметнасцяў, і найперш такой каштоўнасці, як мова.

Вось вам прыклад. Калі збіраліся сакратары абкамаў з Украіны, яны паміж сабой размаўлялі па-ўкраінску. Я ўжо не кажу пра партыйных кіраўнікоў Літвы ці Эстоніі. Мы ж, беларусы, – выключна па-руску. На апошнім з'ездзе кампартыі Беларусі у 1990-м я быў, напэўна, адным з нямногіх партыйных работнікаў, з вуснаў якога гучала беларуская мова.

Дзесяцігоддзямі ў партыйным апараце беларуская мова лічылася, як цяпер прынята казаць, маркерам апазіцыйнасці. Я сказаў бы нават так: чалавек, які прынцыпова размаўляў у жыцці па-беларуску, не меў ніякіх шанцаў зрабіць кар'еру ні ў партыі, ні ў дзяржаўным апараце. Яго самога ўспрымалі як небяспечнага дысідэнта, а яго пазіцыю – як праяву «нацыяналізму» ў самым адмоўным значэнні гэтага тэрміна.

На вялікі жаль, гэтаксама ўспрымаецца родная мова і цяперашнім кіраўніцтвам ужо незалежнай краіны, хаця павінен сказаць, што ў апошні час ёсць некаторыя станоўчыя зрухі.

І тут вельмі важная роля інтэлігенцыі, яе ўплыў на кіраўнікоў рознага рангу. Для станаўлення маёй нацыянальнай свядомасці вельмі плённымі былі цёплыя і шчырыя адносіны з Генадзем Бураўкіным, Уладзімірам Караткевічам, Рыгорам Барадуліным, Васілём Быкавым, Петрусём Броўкам, Міхасём Савіцкім, Алесем Петрашкевічам, Нілам Гілевічам, Іванам Шамякіным... Мы часта запрашалі іх у Віцебскую вобласць, яны выступалі ў нашых працоўных калектывах, і, слухаючы іх, я ўсё больш глыбока разумеў, як важна развіваць нацыянальную культуру, пашыраць ужыванне беларускай мовы ва ўсіх сферах жыцця. Гэта і сёння павінна стаць падмуркам дзяржаўнай палітыкі.

Ганаруся, што быў сярод ініцыятараў стварэння Таварыства беларускай мовы, браў удзел ва Устаноўчым з'ездзе ў 1989 годзе. А неўзабаве мяне абралі старшынёй абласной арганізацыі Таварыства, актывістам якога я з'яўляюся і па сёння. Ва ўсіх гарадах і раёнах вобласці адбыліся шматлікія сустрэчы з беларускімі літаратарамі. Рада ТБМ практыкуе абласныя агляды-конкурсы мясцовага друку «З беларускім словам». На радзіме Васіля Быкава ва Ушацкім раёне штогод праводзім літаратурныя чытанні.

Я цвёрда засвоіў залатое правіла: жыць па сумленні. І радуюся, што з большасцю тых, з кім працаваў і крочыў жыццёвай дарогай, звязвае сапраўднае і ўжо выпрабаванае сяброўства.

**Андрэй ГУШЧА.**



**На здымку: Іосіф Навумчык разам з Генадзем Бураўкіным. Віцебск, пачатак 1970-х.**

СУД

## За меркаванне – 735 рублёў штрафу



Учора суд Мінскага раёна асудзіў сустаршыню аргкамітэта па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» **Віталя Рымашэўскага** да штрафу ў памеры 30 базавых велічынь.

Палітыка пакаралі за тое, што ён стаяў на фоне бел-чырвона-белага сцяга і публічна выказваў меркаванне ў дачыненні да рэстарана, які пабудаваны ля Курапатаў.

Пры гэтым суддзя падчас пасяджэння спытаў у Рымашэўскага, ці меў ён дазвол на выказванне свайго меркавання і калі так, то хто яго даў.

*«Гэта ўсё, што трэба ведаць пра наш беларускі суд»,* – адзначыў палітык.

ФАКТ

## Более 1000 сделок…

По данным отдела консалтинга и аналитики группы компаний «Твоя столица», ежемесячно на вторичном рынке жилья Минска продается/покупается порядка 1100 квартир. Именно это количество сделок аналитики считают показателем стабильности рынка. В зависимости от экономической обстановки в стране и времени года, эта цифра может снижаться до 550 сделок (например, в январе 2016 г.) и вырастать до 1480 сделок, как это было отмечено в ноябре 2017 года. В настоящее время, в августе и сентябре текущего года было зарегистрировано примерно равное количество сделок – порядка 1050. Больше всего продается одно- и двухкомнатных квартир.

КАДРЫ

## Святое месца пустым не бывае…

*Прызначаны новы генеральны дырэктар хакейнага мінскага «Дынама».*



Папярэдні «генеральны» Анатоль Курылец адпрацаваў на гэтай пасадзе два гады і пакінуў яе роўна тыдзень таму. Як паведамілі ў клубе, *«па асабістай ініцыятыве ў сувязі з заканчэннем кантракта».*

Але ўсім было зразумела, што дзясятае запар паражэнне «Зуброў», відаць, і стала той самай апошняй кропляй, якая прывяла да змены гендырэктара. Ды яшчэ напярэдадні падліў алею ў агонь і вядомы хакейны трэнер Уладзімір Крыкуноў, які зараз узначальвае маскоўскае «Дынама».

На прэс-канферэнцыі ў Мінску Уладзімір Васільевіч пракаментаваў правальнае выступленне мінскага «Дынама» коратка: *«Хакеем павінны кіраваць хакеісты, а не генералы».* Калі хто не ведае, то старшынёй назіральнай рады клуба з'яўляецца міністр унутраных спраў Ігар Шуневіч, а Анатоль Курылец – былы намеснік міністра ўнутраных спраў.

Новым генеральным дырэктарам «Дынама» прызначаны 40-гадовы Дзмітрый Баскаў – у мінулым прафесійны хакеіст. Пачынаў кар'еру галкіперам у «Юнацтве», затым выступаў за гродзенскі «Нёман», «Брэст», «Віцебск», сталічны «Керамін»…

Пяць гадоў таму Баскаў узначаліў СДЮШАР БФСТ «Дынама» і добра зарэкамендаваў сябе на гэтай пасадзе. Ва ўсялякім выпадку, вынікі працы спартыўнай школы кажуць самі за сябе – яна лепшая ў краіне. Зараз Дзмітрый Баскаў пайшоў на павышэнне, але час пакажа, ці справіцца…

**Алесь СІВЫ.**

ПАМЯЦЬ

# У Свіслачы ўшанавалі паўстанцаў Каліноўскага

Актывісты Гродзеншчыны традыцыйна сабраліся перад Дзядамі ў Свіслачы, каб правесці агульнабеларускі фэст «Дзень памяці паўстанцаў 1863 года».

Гэтым разам у горад Свіслач Гродзенскай вобласці з'ехалася некалькі дзясяткаў чалавек. Праграма мерапрыемства традыцыйна паўтараецца на працягу больш як 20 гадоў. Напачатку ўсклалі кветкі і запалілі знічы на магіле **Віктара Каліноўскага**, старэйшага брата **Кастуся Каліноўскага**. Новым удзельнікам фэсту распавялі, як у 1990-я была знойдзена і ўпарадкавана магіла Віктара Каліноўскага.

Затым па цэнтральнай вуліцы Свіслачы з бел-чырвона-белымі сцягамі прайшлі да помніка Кастусю Каліноўскаму, дзе таксама запалілі знічы і ўсклалі кветкі. Дарэчы, помнік Кастусю Каліноўскаму ў Свіслачы, адзіны ў Беларусі, быў усталяваны яшчэ ў савецкія часы.



**Удзельнікі «Дня памяці паўстанцаў 1863 года» ў Свіслачы побач з помнікам генералу Траўгуту.**

Наступным месцам ушанавання памяці паўстанцаў стаў помнік аднаму з кіраўнікоў паўстання генералу **Рамуальду Траўгуту** ў Свіслачы на Алеі герояў. Помнік быў усталяваны ў міжваенны час, калі землі Заходняй Беларусі знаходзіліся ў складзе Польшчы. Апошні пункт ушанавання паўстанцаў – Якушоўка, радавая сядзіба Каліноўскіх на ўскрайку Белавежскай пушчы ў Свіслацкім раёне.

Традыцыйна мерапрыемства па ўшанаванні паўстанцаў 1863 года ў Свіслачы здымалі на камеру людзі ў цывільным. Звычайна праз некалькі дзён удзельнікаў акцыі выклікаюць у пастарункі, складаюць на іх пратаколы за ўдзел у несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве, пасля чаго судзяць.

Менавіта гэта і стала прычынай таго, што з кожным годам «Дзень памяці паўстанцаў 1863 года» ў Свіслачы становіцца менш масавым.

**Аляксей МІХАЛЁЎ.**

Народная Воля http://www.nv-online.info
30 КАСТРЫЧНІКА 2018 г.

НЕСТАНДАРТ

# Сяргей Бандарэнка будуе ў сваім агародзе… Крэўскі замак

*Крэўскі замак, адно з самых старажытных збудаванняў абарончага тыпу часоў Вялікага Княства Літоўскага, пачаў набываць рысы першапачатковай велічы. А ў 4 кіламетрах ад Крэва на вачах паўстае дакладная копія арыгіналу ў маштабе 1:10.*





Мініяцюрны Крэўскі замак у вёсцы Чухны, які будуе Сяргей Бандарэнка.

Па праўдзе кажучы, ніколі не мог уявіць, што на руінах Крэўскага замка пачнуцца калісьці работы па кансервацыі. Дзясяткі разоў, бываючы тут, з жалем глядзеў на рэшткі некалі велічных каменных сцен, якія з кожным годам станавіліся ўсё ніжэйшымі. Практычна на вачах знікалі і рэшткі адзінай ацалелай вежы, у якой, паводле прыгожай легенды, Кейстут трымаў у палоне нашага гродзенскага князя Вітаўта, якога адтуль выратавала ягоная жонка.

Сёлета «Белрэстаўрацыя» пачала асвойваць 900 тысяч рублёў, якія рада Прэзідэнцкага фонду па падтрымцы культуры і мастацтва выдзеліла на рэстаўрацыю Крэўскага замка. У маштабах дзяржавы невялікія грошы, але змены ўжо заўважны: закансервавана адна з частак замка, пачалося аднаўленне паўночна-заходняй сцяны, над ёй плануюць узвесці дах… І наогул ужо можна ўявіць, што тут некалі было.

## З руін і попелу

Не чытаў сучасных падручнікаў па гісторыі, але ў сярэдзіне 1990-х кожны школьнік павінен быў ведаць, што ў 1385 годзе ў Крэўскім замку здарылася гістарычная падзея – была падпісана дынастычная унія паміж Вялікім Княствам Літоўскім і Каронай Польскай. Гісторыкі называюць замак самым архаічным ва ўсім Вялікім Княстве і лічаць, што з яго пачалося мураванае абарончае дойлідства нашай сярэднявечнай дзяржавы.

За сваю шматвекавую гісторыю муры Крэўскага замка цярпелі ад розных нападнікаў, разбураліся і зноў аднаўляліся. Першыя навуковыя спробы закансерваваць рэшткі замка ў 20–30-х гадах мінулага стагоддзя належалі польскім рэстаўратарам. Парэшткі сцен былі ўмацаваны металічнымі сцяжкамі, паставілі кантрафорс, але скончыць задуманае не паспелі.

Пасля 1939 года гаворка пра рэстаўрацыю ўжо не вялася, камяні з замка патрэбны былі для савецкіх будоўляў. Княжаская вежа была накрыта рубероідам, пад ім збіралася вада, цэгла крышылася…

Зараз тут працуюць будаўнікі «Белрэстаўрацыі». Іх прараб **Уладзімір Вайцэховіч** распавядае, што вядуцца кансервацыйныя і аднаўленчыя працы. Ён паказвае паўночна-заходнюю сцяну замка, даўжыня якой амаль 100 метраў. Бутавая кладка вядзецца да вышыні 10 метраў, што адпавядае арыгінальнай забудове.

Вайцэховіч кажа, што муры з гэтага боку захаваліся найлепш, бачны нават гнёзды ад бэлек баявой галерэі, трапляецца аўтэнтычная бутавая муроўка. Гэтыя муры менш пацярпелі ад абстрэлу ў Першую сусветную вайну.

*«Бутавы камень бяром той, які асыпаўся са сцен. Як бачыце па кладцы, імкнёмся рабіць усё вельмі адказна,* – кажа прараб. – *Маем ужо нядрэнны вопыт, паколькі працавалі на рэстаўрацыі і Нясвіжскага, і Мірскага замкаў».*

Камяні падвозяць каўшом «амкадораўскага» экскаватара, кран падае іх на вышыню, а там будаўнікі асцярожна дапасоўваюць кожны кавалак і муруюць яго. І так камень за каменем да 10-метровай вышыні.

Уладзімір Вайцэховіча расказвае, што ўжо распрацаваны праект на пяць пускавых комплексаў, але за што возьмуцца пасля паўночна-заходняй сцяны, пакуль не вядома. Прараб лічыць, што галоўнае ў гэтай справе, каб працягвалася фінансаванне – у такім выпадку гадоў праз пяць замак можна будзе ўбачыць цэласна. Адзін з рабочых упэўнена дадае: *«Падымем наш замак з руін і попелу – уся краіна ганарыцца будзе!»*

Самае складанае пры кансервацыі замка – час. Уладзімір упэўнены, што на такіх аб'ектах будаўнікоў нельга абмяжоўваць часам.

## «Мы маем справу з плёнам кансервацыі 1920–1930-х гадоў»

Гісторык і археолаг **Алег Дзярновіч**, які кіруе раскопкамі на Крэўскім замку, лічыць, што кансервацыя і аднаўленне вядуцца на даволі высокім узроўні, вельмі дыхтоўна. Ён уражаны зменамі, што адбыліся за два апошнія гады. Шмат чаго для ўяўлення архітэктурна-археалагічных асаблівасцяў замка далі ў тым ліку і раскопкі археолагаў.

Да прыкладу, было знойдзена шмат бітай дахоўкі – дахі былі крыты менавіта ёю. У Княскай вежы знайшлі шмат кафлі, цяпер можна думаць пра аднаўленне там печаў.

*«І, канешне, сенсацыяй сталі знойдзеныя тут фрэскі,* – згадвае Алег Дзярновіч. – *Малюнак наносіўся па мокрай тынкоўцы. Гэта, бадай, адны з самых ранніх фрэсак эпохі Вялікага Княства».*

Усе гэтыя і іншыя знаходкі даюць інфармацыю, патрэбную для аднаўлення замка. Што датычыцца іканаграфіі, то яна захавалася толькі з канца XIX стагоддзя: ёсць гравюры, фотаздымкі.

Замак быў вельмі моцна разбураны падчас Першай сусветнай вайны.

*«Мы сёння маем справу не з замкам, а з плёнам кансервацыі, якая вялася ў часы Польшчы,* – падкрэслівае Дзярновіч. – *Рэстаўратары, інжынеры і мастацтвазнаўцы ў той час па сутнасці ўратавалі руіны і склалі такі рамантычны вобраз замка».*

Згодна з існуючым праектам, спачатку будуць весціся работы па кансервацыі сцен, а завяршальны і, магчыма, найбольш адказны этап будзе датычыцца Княскай вежы.

Алег Дзярновіч спадзяецца, што работы ў замку не спыняцца. Паводле яго меркавання, дзяржава таксама ўцягнулася ў гэты праект, і цяпер ужо нелагічна пакідаць яго недаробленым.



Кансервацыя Крэўскага замка.

## У маштабе 1:10

**Сяргей Бандарэнка** з тых людзей, у якіх, за што б яны ні ўзяліся, усё атрымліваецца. Дастаткова зайсці да яго ў майстэрню ў вёсцы Чухны і ўбачыць сувеніры, якія ён з металу, дрэва, каменя, керамікі выробляе на продаж. А ў агародзе ў яго стаіць Крэўскі замак, праўда, у маштабе 1:10. Бандарэнка разам з жонкай займаецца яго ўзвядзеннем ужо тры гады.

Ідэя з'явілася побач з руінамі замка, дзе Сяргей прадаваў сувеніры. Турысты цікавіліся, калі пачнецца рэстаўрацыя. Тады адказу на гэтае пытанне не мог даць ніхто, і майстар вырашыў, што зробіць мініяцюрную копію замка, каб людзі ўбачылі яго цалкам.

Будоўля законна аформлена ў райвыканкаме, чарцяжы рабіліся смаргонскімі архітэктарамі. Праўда, паводле дакументаў, гэта тэраса.

Перш чым пачаць будаўніцтва, Сяргей мусіў прывезці сем самазвалаў пяску і разраўняць яго ва ўласным агародзе.

*«Тут усё адпавядае арыгіналу, нават вуглы,* – запэўнівае Сяргей. – *І злом у сцяне на 10 градусаў вытрыманы, як у арыгінале. Працавалі над праектам на падставе аэраздымкі».*

Матэрыялы выкарыстаны такія ж, што і 700 гадоў таму пры будаўніцтве Крэўскага замка.

*«Каменні збіралі на мясцовых палях, цаглінкі з тутэйшай гліны апальвалі ў печы,* – распавядае Бандарэнка. – *Дадаю ў кладку аўтэнтычныя матэрыялы, якія знаходзіў сярод будаўнічага друзу ў Крэве. Толькі цэмент купляю сучасны».*

Самае складанае, што не засталося дакладных выяў замка, многія канструкцыі даводзіцца дадумваць. Сяргей паказвае на меншую з вежаў: дакументальных сведчанняў аб тым, як яна выглядала, не засталося. Нельга нават з упэўненасцю сказаць, іх было дзве ці, можа, болей. У гэтай сітуацыі майстар прытрымліваецца гістарычнай архітэктурнай тэндэнцыі – як будаваліся абарончыя аб'екты таго часу.

*«Цяпер у мяне пытаюцца: а ці варта рэстаўрыраваць Крэўскі замак? Маўляў, няхай бы былі рамантычныя руіны,* – распавядае Бандарэнка. – *А я ім адказваю: варта дзеля таго, каб вы сюды прыязджалі і бачылі, што нашы продкі не толькі ў лапцях хадзілі, а мелі вось такія замкі».*

## Мясцовыя спадзяюцца, начальства ігнаруе

За што Бандарэнка будуе міні-замак? За грошы, якія зарабляе на продажы сваіх сувеніраў. Спрабаваў сабраць сродкі праз інтэрнэт, але нехта пачаў пісаць, што Сяргей такім чынам хоча набіць кішэню. З той жа прычыны не захацеў звязвацца з грантамі.

*«Цяпер турысты, прыязджаючы сюды і ўбачыўшы, што ўжо зроблена, не толькі набываюць у мяне сувеніры, але калі-нікалі ахвяруюць то 10, то 20 рублёў на будаўніцтва замка»,* – распавядае майстра.

У Чухнах мясцовыя жыхары да будаўніцтва паставіліся па-рознаму. Некаторыя, узгадвае Сяргей, круцілі пальцам у скроні: няма куды дзяваць грошы. Другія паспадзяваліся, што гэта прыцягне ўвагу начальства і ў вёску зробяць добрую дарогу. Яшчэ нехта марыў аб тым, што паедуць турысты і Чухны пачнуць адраджацца. Праўда, прызнае Бандарэнка, нічога асаблівага пакуль не адбываецца. Турысты патроху прыязджаюць, цікавяцца, а вось з раённага начальства ніхто сюды нават і носа не сунуў.

**Міхал КАРНЕВІЧ.**
**Фота аўтара.**

ЧУЛІ?

## «Ноеў каўчэг» з дна Нёмана

У Гродзенскім раёне з дна Нёмана паднялі самы вялікі (з раней выяўленых у Беларусі) човен, выдзеўбаны з суцэльнага дрэва. Яго даўжыня больш за 8 метраў, узрост – не менш за 200 гадоў. Човен, які ўжо называюць «Ноевым каўчэгам Наднямоння», знайшлі мясцовыя рыбакі, зачапіўшыся за яго спінінгавай блешняй, і паведамілі пра знаходку археолагам. Тыя з дапамогай вадалазаў паднялі артэфакт на паверхню. Неўзабаве ўнікальная знаходка будзе дастаўлена ў Інстытут гісторыі НАН Беларусі, дзе спецыялісты правядуць навуковае даследаванне. Пасля чаго, паводле слоў супрацоўніка Інстытута гісторыі Сяргея Лінeвіча, човен папоўніць музейную экспазіцыю.

**Антон БРЫЛЕЎСКІ.**

ОТ СЕРДЦА – К СЕРДЦУ



Партнер со стороны Беларуси Анна Бабак (слева) со своими подопечными.



Ян и Ульяна из д.Бюлитс приготовили пиццу с Валентином и Алексеем из Беларуси.

# Ждут как родных

*Для ребенка отправиться в незнакомую страну без родителей – довольно смелый шаг.*

*Кто на протяжении уже 27 лет принимает наших ребят в Германии?*

*Как они проводят там время?*

*Что стало уже традицией для гостеприимных немецких семей?*

*На эти и другие вопросы ответили **Маргрит Ригер** и **Ренате Оеземан**, которые были в числе основателей организации «Дети Чернобыля».*

История организации «Дети Чернобыля» началась в 1990 году. Тогда на церковной службе в городе Арендзее, что в земле Саксония-Анхальт, присутствовали дети, которые пострадали в результате аварии на Чернобыльской АЭС. Службу проводила **Вероника Бенекер**, ныне председатель сообщества.

– *Именно в этот день мы вместе с некоторыми женщинами пришли к идее поддержать детей Чернобыля и принять их здесь у нас,* – рассказывает Маргрит Ригер. – *И в сентябре 1991 года было основано наше сообщество, которое состоит примерно из двадцати человек. Вначале мы привозили группы по 27 детей от 8 до 14 лет и 3 воспитателя к нам в Арендзее, где расположена база отдыха для детей Чернобыля. Затем организовали транспортировку гуманитарной помощи в город Наровля Гомельской области: игрушки, детскую одежду, обувь. Всего примерно 30–40 тонн. К сожалению, с 2005 года из-за финансовых трудностей принимаем только 18 детей и трех воспитателей.*



Анна Партыка, Анна Бабак и Тамара Давидович.

**– Как вы комплектуете группы?**

– *В Наровле у нас есть партнеры, руководит которыми **Анна Бабак**. С их помощью стараемся найти детей из социально слабых и неполных семей. Для этого беседуем со школьными учителями. Каждые два года ездим в Наровлю, знакомимся с детьми на месте.*

**– Как проходит адаптация белорусских детей в приемных семьях?**

– *Как правило, успешно. Очень редки случаи, когда принимающие немецкие семьи не остаются в восторге от белорусских детей. В первую очередь потому, что ваши дети умеют искренне радоваться даже мелочам. Они уважают старших, что не всегда скажешь о немецких детях. Конечно, присутствует языковый барьер. Но принимающие семьи стараются согреть детей теплом, которое некоторые из них недополучают дома. Надо сказать, мы редко сталкиваемся с проблемой поиска семьи, которая могла бы принять ребенка. Желающих хватает. А если нужно, даем объявление в газету или сами приемные родители помогают нам в поиске.*

Несмотря на то, что дети проводят в принимающих семьях лишь выходные, они успевают подружиться с ними. Приемные родители стараются познакомить детей с историей и культурой страны, возят в бассейн, играют, готовят вместе ужин.

– *Мы уже не раз замечали, как дети радуются тому, что снова на выходные отправятся к своим приемным родителям,* – поделилась Ренате Оеземанн.

База отдыха в городе Арендзее располагает всем нужным для оздоровления: рядом находится лес, большое озеро, воздух здесь свежий и чистый. На завтрак детям предлагают «шведский стол», где каждый выбирает то, что ему нравится.

– *Благодаря организации дети имеют возможность познакомиться с немецкими традициями, посетить различные мероприятия. К примеру, мы были на празднике ребенка в деревне Грассау, посещали различные школы, ездили на экскурсии,* – рассказала сопроводитель и переводчица **Тамара Давидович.**

По традиции, перед отъездом на Родину приемные родители, дети, организаторы и воспитатели собираются на вечеринку, поют белорусские песни, танцуют. В 2018 году на вечеринке местные власти города Арендзее подарили детям поездку на пароходе и деньги на мелкие расходы.

Дети уезжают счастливые, готовые поделиться дома своими впечатлениями: *«Нам очень нравится, что нам здесь дарят подарки и что немцы так часто жарят мясо на гриле. Мы все время куда-то ездили, были в разных местах. Очень запомнился парк аттракционов. Германия очень красивая страна, она не может не нравиться. Культура немцев не очень отличается от белорусской. Здесь такие же люди, только язык другой».*

Сообщество «Дети Чернобыля» старается каждый год принимать разных детей, однако приемные родители оставляют за собой право принять того же ребенка еще раз, если сами профинансируют поездку. Таким образом, многие дети не первый год приезжают в Германию к своим приемным родителям, которые каждый год ждут их как родных.

**Стелла КУНЦ.**

Народная Воля http://www.nv-online.info
30 КАСТРЫЧНІКА 2018 г.

ЖИТЕЙСКАЯ ТЕМА

# Вера СЕРДЮК: «Я переняла образ женщины из своей семьи»

Кипучей энергии и разнообразию сферы интересов Веры Сердюк нельзя не восхищаться. Инициатор создания и председатель общественного благотворительного объединения «Центр поддержки семьи и материнства «Матуля». Деятельная супруга протоиерея Павла Сердюка, настоятеля прихода храма святителя Николая Японского: благодаря ей налажена интересная культурная жизнь в приходе. Автор книги «Непраздные рассказы». А еще – счастливая мама пятерых детей!

**– Вероника Владимировна, откуда у вас столько созидательной энергии, такой живой интерес к окружающему миру, столько сил, в конце концов?**

– У нас всегда было принято активно присутствовать в социуме. В моей семье по материнской линии все женщины очень энергичные, боевые, деятельные – несмотря на количество детей. У моей мамы было трое детей, у прабабушки четверо, у бабушки двое. Все всегда очень активно участвовали в общественной жизни, и это никогда не мешало материнству. Поэтому мне было легко: я просто переняла этот образ женщины из своей семьи. Мужья у всех наших были добрые, покладистые, и у меня тоже…

**– Кстати, а можно ли поинтересоваться, как развивалась ваша love story?**

– Своего будущего супруга я впервые увидела в 11 лет в роли Остапа Бендера. Мой папа тогда работал педагогом-организатором и проводил какой-то творческий конкурс. И вот Павел вышел и спел: «А я не плачу и не рыдаю…» Было ему 15 лет, и мне он показался таким красивым! Потом мы потерялись, хоть и жили в соседних домах. Оказывается, он служил в армии. Накануне выпускного бала в женской гимназии я искала кавалера для танцев и попросила Павла. Оттанцевали мы тогда все бальные танцы, подружились, встречались пять лет, пока учились, потом поженились.

**– Как известно, супругам важно быть единомышленниками. Насколько вы разделяли религиозные убеждения будущего мужа?**

– Мама у меня всегда была верующей, и я росла вполне церковной девочкой. До поры религиозность нашей семьи скрывалась: родители были членами партии. Поэтому крестили нас в украинской деревне, где жили мамины родители. А когда общество вновь обратилось к Богу и в нашем городе Жодино появилась церковь, мы стали активными прихожанами. Папа возглавил воскресную школу, я начала петь в церковном хоре.




**– Во время учебы в гимназии вы тоже проявляли себя активно?**

– Да, я там тоже пела. В поп-группе. Такое вот смешение жанров, свойственное, наверное, только подросткам. А еще я с удовольствием участвовала в работе клуба юных натуралистов, каких-то животных оберегала. Так что социальная направленность привлекала меня уже тогда.

**– Вы стали инициатором создания центра «Матуля», помогаете женщинам ощутить счастье материнства. Почему именно на это вы направили свои заботу и внимание?**

– Обычно мы хорошо понимаем то, что самим пришлось пережить. Это и мой личный опыт. Накануне первых родов я хорошо себя чувствовала, писала диссертацию по культурологии. Но, родив, вдруг оказалась в кризисной ситуации: не ожидала, что материнство потребует такой перестройки – и ментальной, и режимной. Я испытала послеродовую депрессию. Это повлекло за собой желание узнать как можно больше о материнстве (грудное вскармливание, уход за ребенком). Организовалась и команда единомышленников. Помню, как мы, молодые мамы, делились своими проблемами и вместе думали, как помочь себе и другим. Мы все одинаково испытывали финансовые затруднения, и вот такая активная общественная деятельность помогла нам не впасть в уныние.

Когда я углубилась в тему кризисного материнства, то поняла, что есть еще более сложная для женщины проблема – аборты. Профилактика этой проблемы стала основной заботой для центра «Матуля». В 2011 году совместно с Минздравом мы запустили пилотный проект по предабортному консультированию. Сейчас оно стало обязательным в нашей стране. Консультации проводят штатные психологи в женских консультациях. Но нужда в наших волонтерах тоже не отпала. Мы работаем с психологами, потому что у нас накоплен богатейший опыт, разработаны методики, есть обратная связь, и мы хорошо представляем, почему наши женщины отказываются от материнства.

**– Видимо, в основном это материальные причины?**

– Не совсем так. В первую очередь женщина, которая идет на аборт, просто боится, что не справится сама с очередным ребенком. Раньше при рождении ребенка в его воспитание и вовлечение в социум включалась не только вся семья, но и соседи, близкие родственники, местное сообщество (например, деревня или городской двор). Сейчас такое участие окружающих встречается очень редко.

**– По-моему, главный аргумент в пользу радости материнства – это ваша собственная семья.**

– Да, у меня пятеро детей. Две дочери, три сына. Старшей – 15 лет, младшему – 5. У нас четверо школьников, один детсадовец, и я чувствую себя сейчас очень свободно. Хотя, конечно, пока дети не подросли, было очень хлопотно.

**– А правда, что управляться в большой семье маме помогает именно многодетность?**

– Так и есть. В семьях с несколькими детьми нет ярко выраженной ревности, нездорового соперничества. Дети отрабатывают социальные роли поведения. Каждый бывает и в роли старшего, и в роли младшего, то есть они учатся и управлять, и подчиняться. Кроме того, у нас старшие развлекаются, учатся, играют с младшими. Например, играя в школу, младшие усваивают как бы ненароком таблицу умножения, английские слова. Все идет на автомате. И дисциплину соблюдают дружно.

**– А занимаетесь ли вы развитием индивидуальности своих детей?**

– Мы с мужем придаем этому очень важное значение. Стараемся каждого ребенка развивать согласно его интересам и склонностям. Они посещают разные кружки, ездят в разные лагеря. Мы любим проводить вместе семейные праздники. Но если кто-то из старших скажет, что хочет отметить отдельно с одноклассниками, скажем, свой день рождения, всегда прислушаемся и постараемся помочь. Таким образом у них оттачивается умение поодиночке выстраивать отношения и справляться с проблемами. Навыки самостоятельности во взрослой жизни необходимы.

**– Есть ли у вас свои секреты налаживания контакта с детьми?**

– Стараюсь каждый день с каждым ребенком немножко поговорить наедине, чтобы понимать, что сейчас у него на уме. Это делаю как бы невзначай, во время каких-то домашних дел – салат нарезать, вареники налепить. В процессе и ведется разговор: как дела в школе, как самочувствие, как отношения в классе? Так ребенок легче раскроется.

**– Есть ли особенности воспитания детей в семье священника в сравнении со светской семьей?**

– Мы придерживаемся принципов, которые заданы в Священном Писании, для расстановки приоритетов в наших семейных отношениях. Несомненно, у нас в семье признается приоритет родителей: глава – отец, затем мама, и уже только потом дети. Дети называют родителей на «вы». На праздники они отправляют старшим родственникам посылки, открытки. Здесь существует целый ритуал. Это очень важно. И не только потому, что я эту традицию вынесла из своей семьи. Я действительно считаю, что старшее поколение – огромный ресурс для любой семьи. Доказано, что если семья живет вместе с бабушками, дети лучше развиваются. Это может создавать проблемы между разными поколениями, которым приходится терпеть друг друга, но дети развиваются лучше.

**– И все-таки, какой бы гармоничной и комфортной ни была атмосфера в семье, дети неизбежно выходят за ее пределы. Вы не боитесь влияния улицы, подростковой среды?**

– Я думаю, у наших детей достаточно наполненная и интересная жизнь, чтобы не искать себе развлечений на улице. Человек – существо творческое, он призван к постоянному преображению реальности и улучшению окружающего мира. А дать начало добрым традициям в окружающем мире под силу нам самим. Когда мы получили в Каменной Горке землю под строительство храма, то сразу отметили, что рядом с будущим приходом есть очень живописная горка и небольшой лесок. Конечно, для строительства микрорайона требовалось много песка, и эту горку наверняка предполагали снести. Однако мы убедили, что нужно сохранить естественный ландшафт. Потому что в каменных джунглях должен быть островок живой природы.



**– Вы своих детей воспитываете религиозно?**

– У нас достаточно либеральное отношение. Дети все равно сами сделают свой выбор, но они должны четко осознавать, кто их родители, какие у них идеалы. Десять заповедей однозначно должны знать, потому что любой культурный человек должен их знать.

**– То есть вы показываете им свой мир, но даете право выбора. А если они выберут атеизм?**

– Бог создал человека свободным, и мы в состоянии принять свободу наших детей. У каждого человека свой путь. Задача родителей, даже с точки зрения религии, воспитать у детей нравственность, соблюдение моральных норм.

**Екатерина АГЕЕВА.**
(«Алеся»)

**Фото из семейного альбома В.Сердюк.**

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

# Эдуард ЗАНКАВЕЦ: «Станавіцца спартыўным каментатарам не збіраюся»



*Вядомы беларускі хакейны трэнер расказаў «Народнай Волі», чаму зараз нідзе не працуе, а таксама пракаментаваў крызіс мінскага «Дынама».*

Адзін з апошніх матчаў «зуброў» з омскім «Авангардам» разам з Уладзімірам Навіцкім каментаваў і былы настаўнік зборнай Беларусі Эдуард Занкавец. У свой час ён працаваў і ў трэнерскім штабе омскай каманды, апошнім часам узначальваў славацкі «Слован», які ў мінулым сезоне ў КХЛ заняў сярод усіх каманд апошняе месца.

Відаць, гаспадары клуба былі незадаволены такой работай трэнерскага штаба. Хаця трэба адзначыць, што Занкавец прыйшоў у каманду не з пачатку сезона, а змяніў на пасадзе галоўнага трэнера Мілаша Ржыгу толькі ў кастрычніку мінулага года. На той час «Слован» ужо займаў апошняе месца ў сваёй канферэнцыі...

– Зараз час вольны ёсць, таму, калі запрашаюць на тэлебачанне часова стаць каментатарам, не адмаўляюся, – кажа **Эдуард Занкавец**. – Здараецца гэта прыкладна раз на месяц.

**– Кантракт са «Слованам» не працягнулі?**

– Так, гэта рашэнне кіраўніцтва клуба, таму пакуль у прафесійным плане нічым не займаюся. Чакаю прапаноў. Яны могуць паступіць хутка, а можна чакаць і працяглы час. Такая спецыфіка трэнерскай працы.

**– З беларускіх клубаў такіх прапаноў няма?**

– Скажам так: ёсць мэты, якія хацелася б перад сабой ставіць, але сярод беларускіх клубаў такія не разглядаюцца.

**– Пасля дзесяці паражэнняў запар сталічнае «Дынама» не крытыкаваў толькі лянівы, і, шчыра кажучы, было за што. На ваш погляд, чаму мы бачым такі правал каманды?**

– Таму што своечасова не прымаюцца правільныя рашэнні. Сітуацыя зараз такая, што яна нікім практычна не кантралюецца. Я назваў бы гэта крызісам, які ніхто не спрабуе ліквідаваць.

**– А хто найперш павінен гэта зрабіць: кіраўніцтва клуба, трэнер?**

– Я ж не ведаю, як у «Дынама» пабудавана сістэма кіравання. Але рашэнні павінны тычыцца ўпраўлення камандай. А зараз там – адзін у лес, другі па дровы.

**– Сезон, можна сказаць, яшчэ толькі набірае абароты. «Зубры» яшчэ могуць пераламіць крытычную сітуацыю, у якую трапілі?**

– Калі разважаць пра тое, ці трапіць каманда ў плэй-оф, то пра гэта марыць, відаць, ужо не выпадае. Каб нешта змяніць, трэба было прымаць рашэнне дзесяць гульняў таму, бо ўсе гэтыя матчы ўжо страчаны. І гэта вельмі шмат пры той сістэме набору ачкоў, што існуе.

Калі ж казаць пра надзею, што каманда ўстрапянецца, пакажа прыстойны хакей, які прыйдзецца даспадобы балельшчыкам, і з'явіцца пэўная інтрыга, то тут не ўсё яшчэ страчана. Але зноў-такі нейкае рашэнне выхаду з крызісу трэба прымаць вельмі хутка. І ад хуткасці будзе залежаць далейшы лёс каманды.

**– Калі б вам прапанавалі пасаду галоўнага трэнера «Дынама», ці пагадзіліся б?**

– Без каментарыяў.

**– А можа, варта паспрабаваць сябе ў прафесійнай каментатарскай працы?**

– Вось тут дакладна магу сказаць: спартыўным каментатарам станавіцца не збіраюся. Я люблю трэніраваць…

**Алесь СІВЫ.**

ФУТБОЛ

# Медалёвая інтрыга

*На фінішы чэмпіянату Беларусі па футболе традыцыйна разгараецца барацьба за размеркаванне сярэбраных і бронзавых медалёў.*



Адбыліся матчы 26-га тура, вось іх вынікі: « Іслач» (Мінскі раён) – «Мінск» – 0:3, «Днепр» (Магілёў) – «Слуцк» – 2:0, «Тарпеда» (Мінск) – «Віцебск» – 0:1, «Гарадзея» – «Смалявічы» – 4:1, «Дынама» (Мінск) – «Дынама» (Брэст) – 1:1, «Нёман» (Гродна) – «Прамень» (Мінск) – 0:0, «Тарпеда-БелАЗ» (Жодзіна) – «Шахцёр» (Салігорск) – 1:0, «Гомель» – БАТЭ (Барысаў) – 0:1.

### Турнірнае становішча

| Каманды | Гульні | Выйгрышы | Нічыі | Паражэнні | Мячы | Ачкі |
|---|---|---|---|---|---|---|
| БАТЭ | 25 | 20 | 3 | 2 | 45–17 | 63 |
| Віцебск | 25 | 16 | 5 | 4 | 41–16 | 53 |
| Шахцёр | 25 | 15 | 6 | 4 | 33–12 | 51 |
| Дынама (Мн) | 25 | 14 | 8 | 3 | 32–17 | 50 |
| Тарпеда-БелАЗ | 25 | 14 | 4 | 7 | 29–16 | 46 |
| Дынама (Бр) | 25 | 12 | 9 | 4 | 45–25 | 45 |
| Нёман | 26 | 11 | 6 | 9 | 28–26 | 39 |
| Слуцк | 26 | 11 | 3 | 12 | 25–28 | 36 |
| Мінск | 26 | 6 | 9 | 11 | 31–31 | 27 |
| Іслач | 26 | 6 | 9 | 11 | 15–31 | 27 |
| Гомель | 26 | 7 | 5 | 14 | 14–30 | 26 |
| Гарадзея | 26 | 6 | 7 | 13 | 23–32 | 25 |
| Смалявічы | 26 | 5 | 6 | 15 | 18–34 | 21 |
| Прамень | 26 | 4 | 9 | 13 | 21–38 | 21 |
| Тарпеда | 26 | 4 | 6 | 16 | 14–35 | 18 |
| Днепр | 26 | 3 | 7 | 16 | 15–41 | 16 |

НОВЫЯ ІМЁНЫ

# «Гэта неверагодна крута!»

*У мінулыя выхадныя беларуская лёгкаатлетка **Эльвіра Герман** атрымала ў Жэневе ўзнагароду ў намінацыі «Узыходзячая зорка».*

Чэмпіёнка Еўропы-2018 ў бегу з бар'ерамі была адзначана на цырымоніі ўручэння прэміі Еўрапейскай лёгкаатлетычнай асацыяцыі «Golden tracks».

Адразу пасля ўзнагароджвання за кулісамі сцэны старшыня Беларускай федэрацыі лёгкай атлетыкі **Вадзім Дзевятоўскі** змяніў амплуа і нават запісаў імправізаванае відэаінтэрв'ю са спартсменкай.

**– Эльвіра, табе было прыемна стаяць на гэтай сцэне?**

– Гэта для мяне вялікі гонар. Амаль тое самае, што перамагчы на чэмпіянаце Еўропы. Неверагодна крута і варта таго, каб паказваць новыя высокія вынікі.

**– У душы адчувала, што пераможаш у гэтай намінацыі саперніц альбо перамога стала нечаканасцю?**

– Насамрэч усё было дастаткова нечакана. Самы сапраўдны сюрпрыз! Я вельмі хвалявалася на сцэне, але, мяркую, усё прайшло нармальна…

**– Нават выдатна, тым больш што з англійскай мовай у цябе ўсё ў парадку.**

Эльвіру Герман называюць вельмі перспектыўнай спартсменкай, а сама яна і ў спорце, і ў жыцці даказвае, што ўсяго дабіваецца сама.

*«У дзяцінстве салодкае мы елі ў трох выпадках: калі прыязджала бабуля, калі прыходзіла пасылка ад таты і калі на Новы год маме давалі нейкія падарункі на рабоце,* – расказвала Эльвіра pressball.by. – *А так – хлеб і спрэд, таму што ён больш танны за масла. Кілбасы і мяса не бачылі – вельмі дорага. З вёскі везлі бульбу, цыбулю, зеляніну. Самі вырошчвалі і цягнулі дадому – дзве маленькія дзяўчынкі з вялізнымі сумкамі. І я заўсёды хацела зарабляць, каб аблегчыць маме жыццё. І каб мая будучая сям'я жыла не так, як я. Гэта была галоўная матывацыя…»*

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

Адрас рэдакцыі: 220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.
Рэкламны аддзел (017) 328-66-09.
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info

Падпісныя індэксы:
63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.

Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ

9 772071 964000 18086

Паколькі ў рэдакцыі няма магчымасці рэцэнзаваць і вяртаць нявыкарыстаныя матэрыялы, яна пакідае права ўступаць у перапіску за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 29.10.2018 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 22 705 экз. Заказ № 3727.